№ 25. Ausgabe B.

# ГОМАН

№ 25 (117). Год II. Вільня, 27 марца 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## ЛІТВА.

**БЭРЛІН. Як даведалося тэлеграфрае бюро Вольффа, статс-сэкрэтар да загранічных спраў, Цыммэрманн, прыняў дэпутацію ад літвіноў з занятых зямель. Статс-сэкрэтар выслухаў жаданьня дэпутаціі і сказаў, што імпэратарскае правіцельство настроено вельмі прыхільна да літоўскаго насяленьня і пры замірэньні акажэ поўную паддзержку яго жаданьням дайсьці далёка ідучаго самаўпраўленьня.**

## 26 марца.

**Заходні тэатр:**

Ад каналу Лябассэ да палудзеннаго берагу Скарп учора была вострая артылерыйская бітва.

У гарыстых ваколіцах на палудзенным заходзі ад С.-Кантэн нашы войскі адкінулі наступаўшые цераз Сомму і канал Кроза француские сілы, зрабіўшы ў іх у вострых схватках цяжкіе страты. Ўзяты ў палон 100 душ, здабыты некольні кулемётаў і 1 гармата.

На ўсходзі ад Элет і проці лініі Легі-Нэвіль ворагі пасьля востраго агня артылерыі наступалі значнымі часьцямі некольніх дывізій. Наступаўшые тройчы адбіты са стратамі.

Пры Краонэль, на ўсходзі ад Эн, наступленьне французоў адбіто штыкамі.

24 марца лятучая эскадра атакавала Дюнкірхэн.

Ворагі утрацілі ўчора ў бітвах на паветры 11 самалётаў.

**На усходнім тэатры і на Македонскім фронці** палажэньне, наагул, без перамен.

Нашы лятуны скінулі бомбы на ваенны табор на палудзенным усходзі ад возера Дойран.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Сягоньня перад абедам апубліковано апавешчэньне тымчасоваго ураду, ў якім гаворыцца, што ўсе фінансовые абязацельствы старога ураду будуць выпаўнены акуратна і сумленна. Усе падаткі, пошліны і т. п. будуць спаганяць, як і раней, пакуль ня будуць выданы новые законы аб іх. Правіцельство радзіць усім гасударственым установам берагчы казённые грошы. Без павялічэньня некаторых падаткоў нельга будзе абыйсьціся, але новая падатковая сыстэма разложыць ціжар падаткоў роўнамерна—паводлуг заможнасьці розных кляс насяленьня.

ШТОКГОЛЬМ. Дзержаўная дума выпусьціла проклямацію да ўсяго народу, асабліваж да селян, у якой кажэ: „Важнейшые гарады пачынаюць галадаць. Запасоў, якіе знаходзяцца пад акуратным наглядам тымчасоваго ураду, хопіць толькі на некольні дзён. Гэтак сама грозіць голад і арміі. Грамадзяне! Селяне! Ваша сьвятая павіннасць здаволіць усім патрэбным тых, хто вызваліў вас ад ненавіснай няволі, каб голад ня кінуў бы іх ізноў у абоймы насільнікоў!“

ШТОКГОЛЬМ. Галава работніцкай рады, Чхэідзэ, адмовіўся ўступіць у тымчасовае правіцельство.

Думе не ўдалося звясьці опозыцію работнікоў, і работнікі ўладзілі камітэт дзеля кантролю правіцельства, каб у патрэбны момэнт работнікі маглі-бы ўзяць уласць у свае рукі сілай.

Пецярбурскі рэспубліканскі рабочы камітэт, каторы прынімае ўсё болей і болей форму новаго правіцельства, з якім прыходзіцца лічыцца, кожын дзень атрымлівае весткі аб пачатку развалу быўшай царскай імперыі. Латышскіе нацыональные камітэты ў Рызе і Гэльсінгфорсе выпускаюць адозвы з жаданьнем самай шырокай аўтономіі для латышскаго народу. Ў той аўторак у Рызе ў часі аграмадных маніфэстацій на вуліцах латышскіе прамоўцы прызывалі да разрыву з Расеей, організаціі Латышскай рэспублікі і неадкладнаго роспуска так-званых „дабравольных“ латышскіх батальёноў, якіе стаяць на фронці. Аб пачатку украінскаго сэпаратыстычнаго руху ужо паведамлялі раней. Палажэньне ў расейскім Туркестане—вельмі заблутанае. На Каўказі рух да аўтономнай Каўкаскай рэспублікі нестрымана ідзе ўпярод.

КОПЭНГАГА. Работніцкіе саюзы, каторые дамагаюцца для сябе правоў, роўных с правамі тымчасоваго ураду, вельмі затрудняюць палажэньне. У Маскве пануюць работнікі і староннікі крайніх левых. Соцыал-рэволюцыйны камітэт, каторы робіць опозыцію думскаму камітэту, ўсемі сіламі дабіваецца таго, каб устаноўчы сэйм быў склікан у Маскве.

ШТОКГОЛЬМ. Ваенная ўласць організована так: глаўнакамандуючым будзе генэрал Рузскій пад кантролем камітэту нацыональнай абароны пад маршалкоўствам Гучкова. Генэрал Рузскій захавае ў сваіх руках глаўную каманду на паўночным фронці дзеля таго, каб недапусьціць контррэволюціі.

ЛЮГАНО. Царскую сям'ю арэштавалі затым, што цар, ня гледзячы на дадзенае слово, патайна перапісываўся с царыцай.

БЭРН. Швэйцарскаму паслу ў Пецярбурзі загадано завязаць офіцыальные зносіны з новым правіцельствам.

## Разбітае недаразуменьне.

Быў цар Мікалай, — і німа цара Мікалая. Панаваў 300 гадоў род Романовых, — і на іх прыйшоў звод. Стагнала Расея сотні гадоў пад цяжкім ярмом царскіх чыноўнікоў, — і гэтай няволі настаў канец. Даволі было народу сьмела і дружна выступіць проці сваіх крыўдзіцелёў, і тое, што выдавалося абапёртым на ненарушымых асновах, рассыпалося, бытцым парахно.

У нашым жыцьці ёсць так сама шмат такога, на што людзі звыкліся глядзець, як на нешта вечнае, ўмацаванае назаўсёды. Але часта даволі крануць рукой, даволі сказаць сьмелае слово, і плод недаразуменьня ці народнай цемнаты знікне, як дым. Да гэткіх пладоў цемнаты і несьвядомасьці нашаго народу належыць пагляд на панаваньне ў нашым Краю польшчыны, як бытцым ад напомных вякоў установленай на вечные часы.

Хто змалку дзён сваіх чуў ад паноў, ксяндзоў і сваіх-жэ братоў, што польская мова — гэта мова «панская», а беларуская — «мужыцкая», таму здаецца, што так яно заўсёды было і будзе. І мала каму вядома, што быў час, калі на нашай зямлі — апрыч беларусоў і літвіноў — не было ніводнаго паляка, што па польску ніхто тут ня ўмеў гаварыць, што польскіе колоністы панахлынулі да нас усяго 350 гадоў таму назад, і толькі ад таго часу нашае панство і шляхта пачалі меняць сваю беларускую мову на чужацкую і разам с прымакамі сваімі абертаць народ беларускі у сваіх «халопоў». Ажно цяпер прыйшоў час, што тые «халопы» пачалі разумець, што яны — такіеж людзі, як іх «паны», і вось, разам с першым праменем волі, збудзілася ў іх сьвядомасць, што іх нацыональнасць, іх мова маюць поўнае право на быт, на панаваньне у сваей старонцы. І дзе ўчора была расейская ці польская школа, дзе вучыцель-чыноўнік або «паненка» абертали беларусоў у маскалёў ці палякоў, — там цяпер будуюцца беларускіе школы, там сьмела і вольна зьвініць беларускае слово, здабываючы належнае яму паводлуг усіх боскіх і людзкіх правоў мейсцо.

350 гадоў пануюць у нас палякі, а 120 панавала Расея. Але панаваньне гэтае, асbuilt на крыўдзе і гвалце, не магло быць вечным: сьледам за канцом расейскай чыноўніцкай уласьці прыходзіць канец і панаваньню польшчыны. Разбіцьце самадзержаўнаго ладу ў Расеі расчыніло вочы тым, хто верыў, бытцым паняволеные царскім правіцельствам як маскоўскі, так і іншые народы Расеі засуджэны на вечные часы хадзіць пад ярмом, жыць пад «апекай» чыноўнікоў. Ды гэтаж прымушае адумацца і тых, хто ешчэ не утраціў веры ў «вечнасць» панаваньня ў нас палякоў: раз народ заварухнуўся, раз ён убачыў, што можэ жыць і развівацца без чужацкай «апекі», што можэ здабываць сабе прасьвету ў роднай мове і «выхадзіць у людзі», не вырэкаючыся сваей нацыональнасьці, —ён пойдзе па гэтай новай, самабытнай дарозі далей і творчай працай заваюе для сябе і сваей зямлі вольнае, незалежнае ні ад каго жыцьцё!

*І. Мелешка.*

## За волю і за мір.

Ешчэ ў пачатку вайны ня толькі паступовые элементы ў Расеі, але і даволі ўмяркаванные голасна гаварылі аб тым, што гэта вайна павінна давясьці Расею да рэволюціі. Але тые, чымі рукамі яна цяпер зроблена, не спадзеваліся, каб рэволюція магла адбыцца ў часі вайны: наадварот, усе расейскіе лібэралы, не выключаючы нават часьці соцыал-дэмократычнай інтэлігенціі, прызывалі больш рухавые рэволюцыйные элементы — ў першы чарод работнікоў — да удзержаньня спакою ажно да таго момэнту, калі «пабеданосная армія вернецца с фронту дамоў і, зваеваўшы там супраціўнікоў Расеі, зваюе і ўнутрэных яе ворагоў». З гэтай мэтай у армію пайшлі сваей ахвотай такіе сьветлые грамадзкіе работнікі, як сьв. п. Колюбакін, забіты ў баю пад Варшавай: яны лічылі сваей задачай дзяліць с салдатамі ваенны труд і, з'еднаўшыся з гэтым «аружным народам» на палёх бітв, павясьці рэволюцыйную армію супроць царскаго правіцельства і чыноўніцкаго панаваньня. І калі прыйшлі першые тэлеграмы з Расеі, што рэволюція ня толькі пачалася, але ўжо і дайшла пабеды, прымусіўшы Мікалая II адрачыся ад трону, — дык трудна было даць веры, што гэта—праўда.

Але факт—фактам. Расейская рэволюція дайшла вялікай удачы, і гэта паказвае, што рэволюцыйны

дух, вызваны царскай гаспадаркай і узмацаваны ціжарамі вайны, абхапіў вельмі шырокіе народные кругі, каторые ўрэшці зварухнуліся, каб скінуць старое ярмо няволі.

Апошніе месяцы жыцьця царскаго правіцельства прайшлі дужа трывожна. З розных канцоў Расейскай дзержавы што-раз часьцей прыходзілі весткі аб узросьці рэволюцыйнаго настраеньня народу, аб разрухах с прычыны недастачы прадуктоў і дарагоўлі і т. д. Гэтаго правіцельство не магло не бачыць, не магло не лічыцца з гроэьбай народнаго выступленьня, —але яно ад часу рэволюціі 1905 году ані не змянілося і з гэтай прычыны ужывало старых «спрактыкаваных» способоў дзеля змаганьня с «крамолай». Зменяючы безупынна сваіх міністроў дзеля успакаеньня саюзьніцкіх дзержаў, правіцельство загадало ў шырокіх размерах рабіць арэшты «неспакойных» элементоў. Але гэтаго мало: разумеючы, што народные массы без добрых організатароў і кіраўнікоў не здалеюць на бязмежным абшары Расеі разбіць старую ўласць, правіцельство павяло такую палітыку, каб разбіць і зрабіць «няшкоднымі» ўсе грамадзкіе організаціі, — у першы чарод стаўшую вельмі опозыцыйнай дзержаўную думу, саюзы земств і мест, ваенна-прамысловые камітэты, дзе былі прэдстаўнікі і ад работнікоў, і т. д. Што гэта нішчучая організацію грамадзянства работа была ведзена зусім плянова, паказвае дужа цікавая «дакладная запіска» ўсерасейскаго «патрыотычнаго саюза», ў каторым глаўнае мейсцо занімаў скінуты рэволюцыонерамі міністэр унутрэных спраў, Протопопов. Запіску гэту надрукавало «Нов. Вр.», выяўляючы пры гэтым яе аўтора.

«Запіска» глядзіць на ўсе грамадзкіе організаціі ў Расеі, нават на тые, каторые зусім шчыра працуюць дзеля вайны, як на рэч шкодную, як на перашкоду ў вайне. Яна лічыць, што дзержаўная дума — гэта «рассаднік крамолы», і жадае перш за ўсё за ўселякую цэну разагнаць яе. Але мэта запіскі — не разгон думы сам па сабе, а тое, што толькі гэткім способам можна разбіць так ненавісны Протопопову «паступовы блок»: пятая дума, на пагляд аўтора запіскі, хоць і далабы значнае число левых дэпутатоў, але затое—«пры адпаведным правядзеньні выбароў»—можна былобы ў яе недапусьціць найбольш жывых і чынных людзей, якіе ўжо даўно сталіся «сольлю ў воку» правіцельства. «Запіска» радзіла правіцельству апірацца ў яго палітыце на «элементах заможных і спакойных» — на прамышленых і торговых кругах і выгаварывала правіцельству яго «няпекные» паступкі у адносінах да спэкулянтоў, каторых уласьці пад націскам грамадзянства былі арэштавалі за розные машэнствы. У сваім жаданьні здабыць прыхільнасць у буржуазіі аўтор запіскі ідзе так далёка (як на рэакцыйнаго міністра), што гатоў нават і жыдоўскай буржуазіі, бышай дагэтуль у поўным загоне, даць права набываць нерухомае меньне па ўсей Расейскай дзержаве.

Гэта запіска, апублікованая ў «Нов. Вр.», трэба думаць, папярэдзіла разгром ваенна-прамысловых камітэтоў, у каторых пачаліся арэшты работніцкіх дэпутатоў. Яна, трэба думаць, была прынята і Мікалаем II, бо цар загадаў распусьціць дзержаўную думу, каторую гэтак доўга ждалі і каторая мела перад сабой надта вялікую работу. І гэты апошні паступак быў апошняй кропляй, якая, упаўшы ў налітую па самы край шклянку вады, робіць тое, што вада ліецца цераз край.

Старые міністры прачувалі, што разгон думы можэ вызваць вялікую небаспечнасць. Яны сабраліся ў самой думе ў міністэрскім павільёне і пастанавілі запрасіць на нараду кіраўнікоў думскіх партій. Але яны спазьніліся: ў той самы час дума, каторая, ня гледзячы на царскі загад, не опыняла заседаньнёў, назначыла спаўніцельную камісію, якой была дадзена найвышэйшая ўласць у гасударстве,—і ад імі камісіі ў салю, дзе заседалі міністры, з'явіўся генерал Остэн-Сакен с салдатамі і арэштаваў усіх членоў старога царскаго ураду.

Памянутая вышэй «запіска» Протопопова, найбольш ненавіснаго для грамадзянства спаміж усіх міністроў, як адступніка ад лібэралізму, называла работу расейскай опозиціі «партыйным змаганьнем за ўласць». Але Протопопов памыліўся: змаганьне за ўласць вялі не партіі, а ўся Расея, стагнаўшая ад уціску царскаго самадзержаўнаго правіцельства, і першы акт рэволюціі, які ўжо адбыўся на нашых вачах, найлепей паказаў гэта: у спаўніцельнай камісіі, якая ўзяла у свае рукі кіраўніцтво ўсей старанай, мы бачым прэдстаўнікоў усіх опозыцыйных партій, пачынаючы ад акцябрыстоў і канчаючы крайнімі левымі. Але цяпер, судзячы паводлуг дайшоўшых і прыбываючых кожын дзень новых вестак з Расеі, пачынаецца там другі акт рэволюціі: цяпер пачынаецца змаганьне між паступовымі элементамі і рэакціей, а поруч с тым і паміж самымі тварцамі рэволюціі—лібэральнай буржуазіей і работніцкімі массамі.

Што рэакцыонеры не супакояцца с прычыны перамены правіцельства, што яны, скінутые з занятай пазыціі «каля ўласьці», будуць усе сілы свае напружаць дзеля таго, каб вярнуць назад стары лад,—гэта ясна для кожнаго. Але ў першы момэнт яны, бачучы, што рэволюцыйны пажар абнімае ўсю дзержаву, абнімае ня толькі народ, але і армію, пастараліся укрыцца па цёмных кутах і паціху шукаць дарог, каб падкапаць новы лад. Само сабой, гэта—толькі да часу: нельга сумлевацца, што пры першай зручнасьці чорнасоценные элементы будуць прабаваць вызваць контррэволюцію, што з іх прычыны мо ешчэ многа крыві праліецца .. Затое больш выразна намечаецца ўжо цяпер змаганьне за ўласць паміж лібэраламі і крайнімі левымі.

Ні для каго не сэкрэт, што расейскай рэволюціі шмат памагла Англія. Англія ясна бачыла, што старая царская гаспадарка ўсё болей і болей набліжае руіну Расеі, што ўсюды ідзе раскрадываньне нацыональнаго дабра, ідзе поўны гасударствены развал, каторы можэ давясьці да анархіі. А пры такім палажэньні аб пабедзі Расеі нельга было і думаць. Вось, англійскі урад, судзячы паводлуг дайшоўшых да нас вестак, і паддзержаў рэволюцыйнае выступленьне думы, спадзяючыся, што ўласць апынецца ў руках лібэралоў, якіе ад пачатку вайны занімалі надта ваяўнічае становішчэ і вустамі Мілюкова апавешчалі аб «нацыональнай місіі» Расеі — аб патрэбі заўладаць Константынополем і т. п. І Англія не памылілася: новае міністэрство заявіло зусім выразна, што яно хочэ далей вясьці вайну «да аканчацельнай пабеды». Але левые дэпутаты, прыслухаючыся да голасу народу, вядуць зусім адменную палітычную лінію. У сваіх палітычных і соцыальных дамаганьнях левые жадаюць не замены скінутаго цара Мікалая яго братам Міхаілам—з агранічэньнем царскай уласьці, а устанаўленьня рэспублікі ў Расеі—без ніякаго цара; далей, яны намечаюць шырокую праграму соцыяльных рэформ, каторые ня любы лібэральнай буржуазіі, бо яны павінны закрануць інтэрэсы заможных кляс; урэшці, соцыял-дэмократычные работніцкіе організаціі і іх думскіе дэпутаты жадаюць не далейшай вайны, а замірэньня.

Гэтак, як бачым, прычыны нязгодлівасьці між лібэраламі і соцыялістамі — дужа сур'ёзные. Да таго і між расейскімі селянамі пачаўся сур'ёзны рух да раздзелу казённых і панскіх зямель між тымі, хто на зямлі працуе (напр. у Саратоўскай губэрні). І цяпер ешчэ нельга сказаць, хто пераважыць.

Трэба думаць, што апошняе слово прыналежыць арміі: які голас яна падаець? Калі яна выскажэцца за лібэралоў, гэта будзе азначаць далейшую вайну ў еднасьці з Англіей. Наадварот, калі армія пойдзе з работніцкімі дэпутатамі, дык гэтым самым яна заявіць, што хочэ замірэньня, і гэта можэ папраўдзі давясьці да канца вайны, пасьля каторай народы Расеі павінны будуць прыступіць да будаваньня новаго дзержаўнаго жыцьця—на новых асновах.

*Г. Б*



## Сьвітае.

Ужо, дзякуй Богу,
Развеялась ночка!
Сьмялей ставім ногу,
Сьмялей глядзіць вочка.
Да працы, да творчай
Ужо прыступаем
І долю ясьнейшу
Цяпер спатыкаем.
Ад сьпячкі прачнулісь
І свету жадаем,
Бо мы схамянулісь,
Што волі не маем.
Мы доўга стагналі
У царскай няволі,
Шмат гора спазналі,
Ня хочэмо болей
Цярпець такой мукі,
С цямнотаю жыці!
І ў нас-жэ ёсць рукі:
Мы можэм рабіці
Усё, што патрэба
Для нашай старонкі,
Для буднаго хлеба
І вольнай гамонкі!
Жыць хочэм з братамі
Без сваркі, без звадкі:
Ўсе будзем сынамі
Аднэй зямлі-Маткі!

*В. Ляснеш.*

## У Вільні і ваколіцах.

× **Беларускі тэатр.** Маючы сваю пастаянную, хоць і невялічкую сцэну ў гасподзі Беларускаго Клюбу, беларуская драматычная дружына аматароў пад кірункам п. Олехновіча развівае ўсё болей сваю работу. Аднак, глаўную прашкоду ў яе працы становіць тое, што рэпертуар беларускай сцэны—небагаты: перад вайной у беларускім тэатры стаўлялі толькі некольکі п'ес орыгінальных, ды гэтулькі-ж перакладоў. Вось, каб развіваць далей тэатральную работу, беларусы павінны рупіцца аб новые сцэнічные творы. Мы ўжо пазнаёміліся з новымі твора-

Чуткі аб раздзелі зямель, каторые прыналежалі да цара і яго сям'і, зрабілі тое, што селяне пачалі грамадамі ехаць з мест у свае вёскі, баючыся спазьніцца на дзяліцьбу і астацца без зямлі.

Владвімір Львов назначэн обэрпракурорам сьв. Сыноду. Усе архірэі, каторых падазрэваюць у прыхільнасьці да старога ладу, зменены. На мейсцо пецярбурскаго мітрапаліта назначаецца кн. Ухтомскій.

МАЛЬМЭ. Па загаду Гучкова, начальнікі павінны гаварыць салдатам «вы», а салдаты—называць афіцэроў паводлуг чыну, дадаючы слово «пан».

ГААГА. „Times" даносіць с Пецярбурга, што ўсё ешчэ там дзержацца два правіцельствы: адно правіцельство—парадку, гэта правіцельство Львова; другое правіцельство—хаосу, гэта правіцельство Чхэідзэ.

23 селянскіе дэпутаты зажадалі, каб старэйшые запасные былі пушчэны ўраз жэ назад у вёскі дзеля веснавых работ.

Мілюков сказаў аднаму англіцкаму карэспандэнту, што трудавікоў прымусяць умерыць свой жывы тэмпэрамэнт, дапусьціўшы іх да складу правіцельства. На устаноўчы сэйм будуць дапушчэны і кабеты.

БЭРН. Жалезнадарожны саюз у Расеі дамагаецца, каб усіх чыноўнікоў выбіралі-бы служачые. Тымчасовы урад на гэта ня годзіцца.

ШТОКГОЛЬМ. З Украіны даносяць, што там відаць узрост сэпаратыстычнаго руху.

Пры звальненьні палітычных арэштантоў у Арле выпусьцілі і Грыгор'ева, б. камэнданта Коўны. Але іншые палітычные пазналі яго і зажадалі, каб яго ўзялі назад у вастрог, як здрайцу. Яго задзержалі.

У Хэрсоні народ выпусьціў на волю 2200 арэштантоў, каторые рассыпаліся па ўсім горадзі.

Местовая дума ў Маскве зажадала, каб устаноўчы сэйм заседаў-бы ў Маскве.

ШТОКГОЛЬМ. У Фінляндіі пануе нездаволеньне с прычыны таго, што мейсцы міністра, статс-сэкрэтара і генэрал-губэрнатара Фінляндіі заняты не фінляндцамі. У апошніх днях адбываліся мітынгі, жадаючы, каб Фінляндіей упраўлялі фінляндцы.

ШТОКГОЛЬМ. Сюды прыежджаюць з Расеі чужаземцы, баючыся новых крывавых прыпадкоў. Яны называюць адбыўшыйся пэраварот толькі пачаткам новых катастроф.

Членам скінутай дынастіі забаранілі выежджаць с Пецярбурга і з мейсц іх пражываньня.

НЬЮ ІОРК. Прэзыдэнт Вільсон думае, што расейская рэволюція прыбліжае міжнародную мірную конфэрэнцію.

ЛОНДОН. Рэўтэр даносіць с Пецярбурга:

Труп Распутіна выкапалі ў Царскім Сяле і перэвязуць у іншае мейсцо.

# З усяго сьвету.

### Канец блокады Грэціі.

АФІНЫ. Пасьля дзевяцімесячнай вострай блокады Ўрэщці прышоў першы амэрыканскі параход са збожжэм. Палажэньне народу ў апошнім часі было страшэннае: людзі даслоўна карміліся травой і зелянінай.

Саюзьнікі будуць пільнаваць, каб прывезенае збожжэ раздавалі народу і каб яно не папало-бы ў ваенные склады.

### «Весна народаў».

БРУССЭЛЬ. Генэрал-губэрнатар загадаў раздзяліць Бэльгію на два упраўленьня: флямандзкае са сталіцай Бруссэлем і валонскае са сталіцай Намюрам. Будуць выданы падробные інструкціі аб арганізаціі гэтых упраўленьнёў.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

**23.III. Заходні тэатр:**

На фронці Фляндрыі і на адрэзку Арра — значная чыннасць артылерыі.

Францускіе войскі, каторые набапол С.-Сімон перайшлі цераз Сомму і канал Кроза, атакай адкінуты назад. Ворагі утрацілі палоннымі 230 душ, ды нeколькі кулемётаў.

Між Уаз і Эн, на заходзі і на поўдні ад Маржіваль, агнём і контратакай адбіты сільные францускіе атакі. На раўніне Вэвр нашы патрулі ўзялі 12 палонных і 2 кулемёты.

**Усходні тэатр:**

Без выдатных бітв.

*Македонскі фронт*: Каля Манастыра французы сідзяць ціха.

Адзін наш лятучы карабель у начы з 20 на 21 марца абкідаў бомбамі англіцкіе будоўлі на острaві Лемнос.

**24. III. Заходні тэатр.**

Між Соммай і Уазай — штодзенные стычкі патрулёў.

**Усходні тэатр.**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Каля Смаргоні, Барэнавіч і Стохода адбіты разведачные расейскіе дружыны.

Каля Дзьвінска збіт самалёт ворагоў. Над Дрысьвяцкім возерам — непрыяцельскі лятучы шар.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа*: Пасьля вострага артылерыйскаго і міннаго агня нашы войскі здабылі штурмам расейскіе пазыціі між далінамі Солыантар і Чобанос і ўзялі 500 палонных.

Расейскіе наступленьня пры Мад'ярос адбіты.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: Палажэньне без перамен.

Наступленьня ворагоў між вазёрамі Орхіда і Прэсба і пры Манастыры закончэны. Ад 12 да 21 былі новые штурмы французоў. 15 і 17 ворагі мелі некаторую удачу, але 20 і 21 нашымі контратакамі яны выкінуты ізноў. Пануючые вяршыны — цэлком у нашых руках. Ворагі мелі надта цяжкіе страты.

**25.III. Заходні тэатр:**

На фронці Фляндрыі і Артуа— значная работа артылерыі. На поўдні ад Іпра нашы мінамёты сваім агнём зруйнавалі акопы ворагоў, каторые нашы патрулі знайшлі пустымі. Пры Бомэц, Руассэль і канале Кроза нашы патрулі перад наступленьнем ворагоў паводлуг загаду адыйшлі назад. У стычцы пры Врэні, на паўночным усходзі ад Суассон, адбіты са стратамі францускіе батальёны. Пры Супір і пры Чэрні нашы дружыны вярнуліся вядучы 60 палонных.

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА 22.III. **Усходні тэатр**: Ля Бярэзіны нашы атрады прабіліся да другой расейскай лініі і вярнуліся назад, — вядучы 1 афіцэра, 226 палонных салдатоў, 2 гарматы, 6 кулемётаў і 14 мінамётаў.

**Італьянскі тэатр**: Нічога выдатнаго.

ВЕНА. 23. III.

На ўсіх трох фронтах нічога выдатнаго.

ВЕНА. 25 III. **Усходні тэатр**: (гл. нямецк. апавешч.).

**Італьянскі тэатр:** На плоскагорыі Карст — удачные наступленьня нашых патрулёў. Паабедзі ішла вострая артылерыйская бітва на плоскагорыі.

# КАЛЯ ВАЙНЫ.

ЛУГАНО. Поў-афіцыозная «Agencia Italiana» прызывае народ пацярпець ешчэ нейкі час. Саюзьнікі прыгатаўляюць агульнае наступленьне. Італьянскі фронт мо' будзе глаўным мейсцом развязкі сусьветнай вайны.

БЭРЛІН. Імператар у сваім пісьме да Гіндэнбурга аб стратэгічным адступленьні немцоў на заходнім фронці, між іншым, піша: „Гэта — найважнейшы крок у справе агульнаго палажэньня на заходнім фронці. Сваей пастановай вы далі новы прыклад стратэгічнаго мастацтва, — прыклад, каторы варт вашых вялікіх удач на ўсходзі. Гэтак утворэна новая база дзеля далейшаго вядзеньня вайны".

БЭРЛІН. Імператар павіншаваў боўгарскаго цара с прычыны ўдачы яго войск на Македонскім фронці.

БЭРЛІН. Як цяпер дайшлі, прынц Фрыдрых-Кароль прускі 21 марца быў прымушэн спусьціцца са сваім самалётам за фронтам ворагоў і папаў у палон.

БЭРЛІН. Памочны крэйсэр «Мэвэ» пад камандай графа Дона вярнуўся са сваей новай падарожжы па Атлянтыцкім акіяні, якая трывала некольні месяцоў. Крэйсэр затапіў 22 параходы і 5 парусных караблёў, разам ёмкасьцю на 123.000 тонн, ды арэштаваў і адаслаў у нямецкіе порты 4 парусніки ворагоў.

АМСТЭРДАМ. Нямецкая падводная лодка затапіла ў Нямецкім моры амэрыканскі параход «Haelaton». Утанулі 21 асоба, ў тым ліку амэрыканскіе грамадзяне.

БЭРЛІН. За апошніе дні нямецкімі падводнымі лндкамі ізноў затоплены 25 параходаў, 14 парусных караблёў і 57 рыбалоўных — разам ёмкасьцю на 80.000 тонн. Яны былі нагружэны: 34 000 тонн вугальля, 3.000 тонн газы, 3.300 тонн жалезнай руды, 3.300 тонн збожжа і 9.900 тонн спажыўных прадуктоў. Апрыч таго на рыбаловах было ўжо шмат налоўленай рыбы.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). Паўночны Ледавіты акіан, апрыч норвэжскіх тэрытор'яльных вод, аб'яўлен у стане блокады.

НЬ'Ю-ІОРК. З Мэксыкі даносяць, што мэксыканскі урад прэдлажыў Злучэным Штатам супольнай працай недапусьціць, каб дзержавы Новаго Сьвету ўмешаліся ў вайну, якая раздзірае Стары Сьвет. Наадварот, яны павінны працаваць разам дзеля падгатоўкі міра.

НЬ'Ю-ІОРК. (Гавас). Прэзыдэнт Вільсон 2 красавіка звернецца да конгрэссу с просьбай пазволіць яму офіцыальна аб'явіць вайну. Разам с тым ён будзе прасіць асыгноўкі 2½ міль'ярдоў франкоў і пазваленьня ужыць аружную сілу Злучэных Штатоў на такіх самых варунках, як Мак-Кінлей у 1898 гаду ў часі гішпанскай вайны.

ВАШЫНГТОН. Вайна проці Нямеччыны — немінуча. Пачатку яе трэба ждаць кожын момэнт.

Цяпер адбываюцца патрыотычные маніфэстаціі на карысць саюзьнікоў на ўсенькім усходзі.

ВАШЫНГТОН (Рэўтэр). Адна нэутральная дзержава маніцца выступіць с пасрэдніцтвам між Нямеччынай і Амэрыкай. Офіцыяльно апавешчаецца, што пасрэдніцтво ня будзе прынято, калі Нямеччына не агранічыць перш падводнай вайны.

БЭРЛІН. Тутэйшаму ураду нічога невядома аб пасрэдніцтве нэутральнай дзержавы. Ешчэ раз адзначываецца нязменная пазыція нямецкаго правіцельства ў падводнай вайне.

# Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

### З Вільні і Віленскай губэрні.

### Табор для ваенна-палонных Lansdorf.

Лісоўскі Фэлікс, Масальшчына.
Зарэмба Язэп, Пілеканцы.
Вудрэвіч Пётр, Зус шкі.
Бяткевіч Іван, Снігайцы.
Лоточка Язэп, Царков'я.
Нов цкі Станіслаў, Ескоі.
трах Міхаіл, Корэво.
Борэйко Язэп, Маляты.
Шыхер Павал, Кузн чы.
Мармахоўскі Язэп, Дрыскоі.
Ярпулькевіч Станіслаў, Вільня.
Лагушынскі Болеслаў, Мадэёўка.
Кавалеўскі Гарасім, Дзішын.

(Далей будзе).



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар В. Ластоўскі.